# КРЫВІНКА

ЛІПЕНЬ
№ 10 (111)
2012 год

”Нельга есці хлеб народа і грэбаваць яго

най мовай”.
Ул. Караткевіч.

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

# БІТВА ЗА ЎРАДЖАЙ

Штогод напрыканцы ліпеня – ў жніўні цэнтральныя падзеі ў Беларусі пераносяцца на калгасныя палеткі. А галоўнай інфармацыйнай навіной становіцца колькасць намалочаных тон збожжа. Афіцыйныя СМІ аж захлёбваюцца, даючы наперабой рэпартажы аб ударніках жніва. Звычайную працу, якой селянін спрадвеку займаўся без шуму і крыку, сёння пераўтварылі ў гераізм. Паспрабуем разабрацца, каму і навошта гэта патрэбна.

Аб неэфектыўнасці калгаснай эканомікі складзены легенды. За 70 савецкіх і 20 постсавецкіх гадоў ёсць толькі лічаныя прыклады, калі праца ў асобных калгасах была эфектыўнай. І ў нашы дні выключэннеў з гэтага правіла мала. Як правіла, затраты, якія калгасы нясуць пры вытворчасці, значна меншыя за іх крэдыторскія і крэдытныя даўгі.

Адсутнасць сапраўдных рынкавых адносін, умяшальніцтва дзяржавы ў справы гаспадарак, адсутнасць незалежных уласнікаў прывяло да таго, што сельская гаспадарка па-ранейшаму застаецца самым няўстойлівым элементам беларускай эканомікі.

Каб апраўдаць яе неэфектыўнасць падключаецца прапагандысцкая машына. СМІ сістэматычна распавядаюць пра тое, якія героі працуюць у сельскай гаспадарцы. Як яны ў складанейшых умовах забяспечваюць нас прадуктамі харчавання. Больш таго, прыдуманы нават спецыяльны тэрмін – “продовольственная безопасность страны”. Пра тое, што гэта “безопасность” вылазіць бокам усёй эканоміцы краіны – маўчок.

Нашым спажыўцам, як і любым спажыўцам у свеце, глыбока да лямпачкі, чыю прадукцыю яны спажываюць, сваю ці замежную. Абы яна была якаснай і адносна таннай. Дык вось, прадукцыя нашых сельгаспрадпрыемстваў значна даражэйшая, чым тая ж польская. (Пра якасць проста памаўчым, каб далёка не адыходзіць ад тэмы.) Так што ганарыцца тым, што мы ядзім па-вар’яцку дарагое мяса могуць толькі вар’яты.

Вядома таксама, што аснову любой перадавой эканомікі складаюць не буйныя дзяржаўныя прадпрыемствы, а дробны і сярэдні прыватны бізнес. Сельская гаспадарка тут не выключэнне. Краіны з развітым фермерствам па ўзроўню развіцця сельскай гаспадаркі займаюць перадавыя пазіцыі ў свеце. І як бы ні пнуліся нашы калгасы, якую б гераічную аўру ім ні стваралі дзяржаўныя СМІ, да паказчыкаў любых з краін Заходняй Еўропы ім, як да неба. Не дапамогуць тут ні Дошкі гонару, ні новыя камбайны, ні будаўніцтва вялізных комплексаў, ні бітвы за ўраджай. Мы прайграём іх, яшчэ не пачаўшы. Бо сельскай гаспадарцы патрэбны не бітвы, а разумная мірная праца вольных землеўласнікаў.

**Г.Станкевіч.**

## ЗАЎСЁДЫ СЯБРУЙЦЕ З ЗЯМЛЁЮ…

*Заўсёды сябруйце з зямлёю,*
*Туліце яе да грудзей.*
*Яна адбірае ўсё злое*
*У птушак, звяроў і людзей.*

*І ўсім бескарысліва дорыць,*
*Забыўшы старыя грахі,*
*У шатах зялёных прасторы*
*І ў ранішніх росах шляхі.*

*А здарыцца гора якое,*
*Яна спагадае ў бядзе,*
*Накорміць цябе і напоіць*
*І спаць на мурог пакладзе.*

*Пад ціхім асмужаным небам*
*Адчуеш і ты ўпершыню,*
*Як ласкаю дыхае глеба,*
*Як луг аддае цеплыню.*

*Калі табе нават зямеля*
*Не зможа ні ў чым памагчы,*
*Яна і тады зразумее*
*І разам з табой памаўчыць…*

**Генадзь Бураўкін.**

ЛЁС БЫЛОГА КАЛГАСА

# ПАЛІЦЫ: ЖАХЛІВАЯ РЭЧАІСНАСЦЬ

Паліцы – цэнтральная вёска былога калгаса “Савецкая Беларусь”, дзе я адпрацаваў старшынёй цэлых тры гады. Калі мяне абіралі на гэту пасаду ў 1986-м, мне было 23 гады, калі я сыходзіў у 1989-м – амаль 27.

У той час гаспадарка мела амаль 2 000 га ворыўнай зямлі. Тут сеялі каля 800 га збожжавых, 120 га льну, 70 – 90 га бульбы. На 1 студзеня 1989 года ў гаспадарцы было больш 40 трактароў розных тыпаў і 19 аўтамабіляў, 10 камбайнаў і г.д. Больш за 3 000 галоў буйной рагатай жывёлы размяшчаліся ў 17 –ці жывёлагадоўчых фермах. Адных кароў было 670 галоў.

На тэрыторыі калгаса ляжала 15 вёсак, дзе пражывалі 636 чалавек. На 1-га студзеня 1988-га года ў калгасе было 173 працаздольных.

І вось сустрэча з былым калгасам праз 25 гадоў. Я еду на ровары праз Русілкі, Дабрыгоры, Паліцы і ўспамінаў, успамінаў, успамінаў… Завітаў на цэнтральную сядзібу. Пустыя мехдвор, раззяпленыя дзверы боксаў, дзе раней стаяла тэхніка. Ні жывой душы. Даехаў да былой канторы і жахнуўся: яна выглядала, нібыта пасля рабунку бандытаў. Разбітыя вокны, узарваная падлога, раскіданыя шматлікія фармуляры і бланкі наўкол. На падвоканні – радок пустых бутэлек з-пад віна і гарэлкі. Побач на пляцы знаходзіцца закратаваны Макаравіцкі сельскі клуб. Каля зачыненай сёлета Дабрыгорскай базавай школы стаіць двухпавярховы васьмікватэрны дом. Раней за кватэры ў гэтым доме ішлі пастаянныя спрэчкі. Старшыня калгаса не ведаў, каму з калгаснікаў іх аддаць, каб каго не пакрыўдзіць. Цяпер жа дом непатрэбны нікому. Стаіць, зіяе выбітымі вокнамі. Жыве тут, здаецца, толькі адна сям’я.

За дваццаць пяць прамінулых гадоў гаспадарка пераўтварылася ў нішто. Старэйшыя пайшлі на пенсію, бальшыня з іх ужо перасялілася на могілкі. Аблічча многіх былых калгаснікаў пазіралі на мяне са сціплых помнікаў на могілках, куды я завітваў па дарозе. Смерць параўняла іх, добрых працаўнікоў і лайдакаватых. Тых, хто часцяком выпіваў і тых, хто не браў гарэлкі ў рот. Ім была наканавана роўная доля: сысці ў нябыт, так і не выканаўшы ўсіх планаў партыі і ўраду, а цяпер яшчэ і наказаў і загадаў прэзідэнта.

Іхнія дзеткі пазбеглі такога лёсу, гнуць спіну ад цямна да цямна на цяжкой працы. Яны з’ехалі адсюль – хто ў Бешанковічы, а хто і далей. Той, хто дажыў у вёсках дасёння, на выходных сустрачае гасцей, якія на добрых іншамарках падрульваюць да родных хацін. Але большасць хат стаяць пустымі.

Таксама пустуе і мая родная хата ў суседнім Сенненскім раёне, і тысячы, нават дзесяткі тысяч хат па ўсёй шматпакутнай Беларусі.

А сяло адраджаюць “лукашоўкамі”.

**Г.Станкевіч.**

ЯК МЫ НАВОДЗІМ ПАРАДАК

# Мяцём дарогі

Уявіце сабе наступны малюнак: Бешанковічы, 25-га ліпеня, апоўдні, вуліца Свабоды. Уздоўж вуліцы сямёра жанчын мятуць мётламі вуліцу, то бок змятаюць пясок у кучкі. Ззаду за імі паволі рухаецца трактар з чатырма мужыкамі. Яны ўзброены шуфлямі, якімі грузяць на вышыню вышэй за сябе той пясок у прычэп. І там, дзе мятуць пясок, і там, дзе яго грузяць стаіць страшэнны пыл. Яго глытаюць і працуючыя, і тыя, хто ідзе ці едзе па дарозе. Дванаццаць чалавек цягам некалькіх гадзін прыводзяць у парадак цэнтральную вуліцу Бешанковіч.

Падобны малюнак нельга ўявіць, напрыклад, у Нямеччыне ці Польшчы. Бо там з людзей, нават з беспрацоўнеых, не здзекваюцца. Па вуліцах у любой еўрапейскай краіне ў падобнай сітуацыі рухаецца машына-пыласмок(парасейску “пылесос”), якая засмоктвае ўвесь пыл у кантэйнер. І ўсё! Дванаццаць чалавек можа адпачываць. А ў нас, дзе чыноўнікі мяняюць сабе іншамаркі, як пальчаткі, на тое няма сродкаў. Вось сродкі плаціць дванаццаці работнікам ёсць. А грошай на падобную машыну бракуе.

Гаворацъ, бюджэт нашага камунгаса вельмі маленькі. Дык ведайце, што яго фармуе наш раённы Савет дэпутатаў на сваіх сесіях. А як ён яго фармуе, тайна сія вялікая ёсць. Бо чалавека з народа туды ніколі не аберуць, а таму глытаць пыл нам усім прыйдзецца яшчэ ой як доўга.

**М.Васільеў.**

КАЛГАСНАЯ РЭЧАІСНАСЦЬ

# Дзіва-сад

Малады сад АграВітВіна, які ўзнік за апошні год у Мамойках і налічвае аж 19 000 саджанцаў, цяпер з дарогі не пазнаць. Той, хто едзе па шашы Бешанковічы – Ула, бачыць з дарогі толькі адыходзячыя да лесу рады быльнягу, з якога выбіваюцца чэзлыя дрэўцы. Справа ў тым, што міжрадкоўі сада тут апрацоўвалі трактарам, а вось самі радкі не апрацоўвалі нічым. Вось яны і зараслі травой і быльнягом у рост чалавека. Цяпер на барацьбу з тым быльнягом кінуты …касары! Яны выкошваюць быльнёг, каб даць магчымасць маладым яблынькам глянуць на сонейка. Працы ім тут хопіць на цэлы месяц. Працы пустой і бесталковай, якой можна было б пазбегнуць, каб сад належаў гаспадару.

Ніяк не ўдаецца пераўтварыць нашу Беларусь у краіну-сад.І, пэўна, пакуль існуюць калгасы, нават крок у гэтым кірунку не зробяць. Як бы ні змянялі калгасныя шыльды, як бы іх ні называлі, калгасная абыякавасць, незацікаўленасць вынікамі працы і проста адсутнасць уласніка даюць свой плён. Калгасы былі і застаюцца тормазам эканомікі, гарантыяй бесперспектыўнасці на бліжэйшую будучыню.

**Г.Станкевіч.**

## “КРЫВІНКА” Ў ІНТЭРНЭЦЕ

У сувязі з праблемай размяшчэння газеты “Крывінка” на партале http://haradok.belarda.org/ наша газета стала будзе размяшчацца на партале **http://kamunikat.org/** , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: **http://kamunikat.org/kryvinka.html** , што у каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання.

## АБ’ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Крывінкі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Крывінка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка.***

***Словам, сувенірам.***

НАША ЖЫЦЦЁ

# ПРАДАЁМ ЯГАДЫ

На райпоўскіх магазінах з пачатку ліпеня з'явіліся аб'явы. На іх чорным па беламу стаіць цана закупляемых ягад: чарніцы 20 тысяч за кг, чырвоныя і чорныя парэчкі па 5 000. Трэба ўзгадаць, што першапачатковая цана на чарніцы была яшчэ ніжэйшая – 17 000 рублёў. І толькі калі райпоўскаму кіраўніцтву стала зразумела, што аніякія планызаданні пры такой закупной цане ім не выканаць, цану на чарніцы крыху ўзнялі. Але ўсё роўна яна застаецца вельмі нізкай, і складае не больш за дзве трэці ад сапраўднай цаны.

Але ж ні якое параўнанне з чарніцамі не вытрымлівае закупная цана на парэчкі. Пры 5 000 за адзін кг поўнае вялікае вядро парэчак каштуе 22 000 рублёў. Каб назбіраць яго, трэба аддаць некалькі гадзін часу. Паспрабуйце найміце сёння чалавека, каб ён вам за плату ў 20 000 абабраў вашыя ж парэчкі. Я ўпэўнена, што не знойдзеце. А наша раённае спажывецкае таварыства хоча, каб у гэтыя рублі за працу ўваходзіў і кошт саміх парэчак!

Але людзі, якія прывыклі ўсё сваё жыццё працаваць за так, няшчасныя бабулькі-пенсіянеркі абіраюць тыя ягады і здаюць. Адны – каб купіць потым паўлітра чарніла, другія – нешта салодзенькае ўнучку. "Бо ўсё роўна абсыпяцца", – тлумачаць яны сваё безвыходнае становішча.

Больш спрытныя і маладзейшыя, узброеныя мабільнымі тэлефонамі, даведваюцца адрасы прадпрымальных людзей. Тых, хто плаціць на тысячу-другую вышэй. І цякуць нашы ягады нясканчоным патокам у матухну Расею, а адтуль па ўсяму свету.

Я іх не сустракала толькі на прылаўках нашых магазінаў. А калі зрэдку тыя ягады і з'яўляюцца ў продажы, то па астранамічных цэнах. Набываюць іх у нас толькі тыя, хто летам не ведае дарогі ў лес, а адпачывае на заморскіх выспах ці ў кабінетах за шчыльнымі дзвярамі з кандыцыянерам.

**Л. Паўлава.**

**P.S.** Дарэчы, абсалютная большыня здатчыкаў чарніц збірае іх камбайнамі, то бок забароненымі пры зборы агрэгатамі. І не чутно штосьці, каб хоць аднаго з іх пакарала наша інспекцыя.

А за адзін кг чарніц на Камароўскім рынку Менска просяць ужо 30 – 35 тысяч рублёў.



СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# Буднянскі комплекс

Робячы свае рэгулярныя велапрабегі, я зноў наведаў новы комплекс у Будніках. З задавальненнем паглядзеў на сытых укормленых кароў, на механізаваную раздачу кармоў, на паўнюсенькія сенажныя ямы. Парадавалася не толькі вока, але і вуха, калі мне паведамілі, што даяркі сёння тут атрымоўваюць да пяці мільёнаў рублёў. Прычым працуюць яны ў чысценькай залі на нямецкім абсталяванні "Вестфалія". Так што ў мяне нават з'явілася надзея, што 52 000 000 000 рублёў, якія закопаны на буднянскім полі, хутка пачнуць даваць аддачу.

Але ж нягледзечы на такія вялізныя грошы, затрачаныя на передавую нямецкую тэхналогію, яе на комплексе да канца вытрымліваць не ўдаецца. Зэканомілі на дробязі – гумавых матах, на якіх каровы мусілі б ляжаць у час адпачынку ў сваіх боксах. Замест іх "перадавыя" беларускія тэхнолагі прапанавалі штодня закідваць туды салому і выкідваць гной. Каб высокапрадуктыўныя каровы не захварэлі на мастыт. Для гэтага і жывёлаводаў спецыяльных трымаюць, якія цэлы дзень ходзяць па памяшканню і падкідваюцьадкідваюць… А яшчэ зэканомілі на сістэме гнояўдалення. Замест мантажу спецыяльных скрабкоў паставілі трактар. А таму на час гноеўдалення прыходзіцца выганяць увесь статак на вуліцу. І так будзе ў любое надвор'е, і зімой і летам.

А яшчэ ёсць меркаванне, што ўзімку тут будзе вельмі холадна. У асабліва вялікія маразы можа нават замярзаць вада ў паілках. Тым больш, калі яшчэ пры гэтым мусяць пачысціць гной, расчыніўшы ўсе дзверы. А вось калі б вышыню памяшкання зрабілі на якую пару метраў ніжэйшай, у ім было б значна цяплей.

На маю думку, калі б замест гіганта на 1000 галоў за 52 000 000 000 пабудавалі 10 сучасных фермаў за 5 200 000 000 кожная, дзе б стаялі па 100 галоў кароў – не асабліва б памыліліся. Але пры сучасным дэфіцыце кадраў у вёсках і курсе на развіццё калгасаў-гігантаў такое развіццё беларускага АПК лічыцца немагчымым. Яно і зразумела: калі на ферме з паглоўем да 100 справіцца сям'я – адзін гаспадар з жонкай і дзецьмі, то комплекс ён не пацягне. Да комплекса ж патрабуецца абавязковы давесак: кіраўніцтва комплексам, кіраўніцтва раёнам, кіраўніцтва вобласцю… Карацей кажучы, комплексы – гэта залатое дно для нашых дарагіх чыноўнікаў.

Але найбольшая небяспека для комплексаў, гэта калі на іх з'яўляецца нейкая зараза. Тады хоць ты ўвесь тысячны комплекс у зямлю закопвай. Ветэрынарная служба пастаянна б'е ў званы наконт гэтага, ды хто яе слухае.

**Г.Станкевіч.**

ЖЫЦЦЁ, ЯКОЕ ЯНО ЁСЦЬ

# НАШ ХЛЕБ

З 15-га ліпеня кошт хлеба ў крамах зноў падвысіўся. Цяпер (на 27-га ліпеня) чорны хлеб без абгорткі каштуе 4620 рублёў, а ў абгортцы 5 320. Белы просты батон адпаведна 4 350 і 5 000. Розніца ў коштах хлеба, то бок кошт абгорткі, складае ў нашых крамах сёння 700 рублёў на чорным і 650 рублёў на белым хлебе.

Нагадаю, што тры гады таму ў ліпені 2009-га года гэта розніца складала 250-270 рублёў. Тады ж буханка хлеба і батон без цэлафану разам каштавалі 2 990 рублёў. Сёння гэты кошт складае 8 970 рублёў. Роўна трохразовы рост цэнаў за тры гады! У столькі ж разоў вырас і кошт абгорткі. (А заробак у 500 даляраў так і застаўся недасягальным.)

"Крывінка" неаднаразова пісала раней пра такі стан рэчаў. Аднойчы нават я задаваў пытанне на наўпроставую лінію, чаму ў райцэнтры нельга набыць неабгорнуты хлеб. Адказ быў такі: маўляў, вінаватыя ў тым загадчыцы крамаў, якія замаўляюць хлеб у абгортках. Бо той у іх не так чарсцвее.

Райпоўскае кіраўніцтва не падшавяліла пальцам, каб за гэтыя тры гады хоць неяк наблізіцца да вырашэння пытання. І сёння па-ранейшаму кожная крама, акрамя магазіна па вуліцы Кастрычніцкай, набывае пераважную колькасць абгорнутага хлеба. Зразумела, што кожная тысяча рэалізаваных булак такога хлеба прыносіць дадаткова 650 – 700 000 рублёў чыстага прыбытку. Не трэба ні жыта сеяць, ні яго малоць, ні хлеб пекчы.

Хацелася б спадзявацца, што хоць чытачы "Крывінкі" змогуць пастаяць за свае правы і стануць патрабаваць і набываць хлеб без цэляфанавага падатку.

**Г.Станкевіч.**

НАША ГІСТОРЫЯ

# СПОВЕДЗЬ СТАРОГА ДУБА

***(скарочана)***

Зусім невялікім і кволым дрэўцам мяне пасадзілі ў зямлю чатыры стагоддзі назад. Добрае месца людзі выбралі – высокае, адкрытае. На першым часе пагойдала мяне, пасхіляла долу ветрамі, настолькі тонкім і слабым я быў. Ды пакрысе я рос, мацнеў, набіраўся сілы. І ўжо настолькі акрэп, адчуў вялізную сілу ў кранях і стамбуры, што пачаў смела супрацьстаяць ветрам і бурам. Ні перад кім і ні перад чым не схіляўся ніколі. Думалася, што так будзе працягвацца і надалей, быццам зносу мне ніякага не будзе. Ды захварэў, стаў сохнуць.

А вось памяць, як і раней, засталася трывалая, нягледзячы, што за плячыма чатыры стагоддзі. Шмат чаго ў галаве трымаю, бо сотні вялікіх і тысячы меншых падзей адбываліся на маёй памяці, праходзілі на маіх вачах.

Напрыклад, самае позняе пакрыццё льдом Заходняй Дзвіны адбылося яшчэ ў маёй маладосці, 25-га лютага 1617-га года; вялікія ўрачыстасці з нагоды прадстаўлення Бешанковічам Магдэбургская права былі ў 1634-м; будаўніцтва якраз насупраць мяне былым уладальнікам маёнтка Бешанковічы, пісарам ВКЛ драўлянага будынку касцёла ў імя св. Казіміра і Рафаіла ў 1650-м. Помню паходы Расейскіх манархаў: Івана Жахлівага і Пятра Першага. Апошні ў 1708-м праводзіў у Бешанковічах ваенны савет… Не прайшлі паўз мяне і тры падзелы Рэчы Паспалітай, калі прыйшлося мне стаць падданым другой дзяржавы, так бы мовіць, змяніць прапіску.

Знакамітыя бешанковіцкія кірмашы гаманілі вакол мяне ўлетку цягам цэлага стагоддзя. А ў 1812-м сам французскі імператар Напалеон Банапарт вёў ад мяне назіранне за пераправай сваіх войскаў. Шкада толькі, што я сам па-французску не бэ ні мэ…

Помню і парад рускай гвардыі ў 1821-м, што прымаў Аляксандр Першы. Яму і помнік стаяў блізу Дзвіны. А ў 1823-м супраць існага рэжыму ўзбунтаваліся сяляне.

У 1857-м страшэнны пажар знішчыў і касцёл і царкву Пятра і Паўла. А ў ноч на 29-га ліпеня 1903-га года над Бешанковічамі бушавала страшэнная бура. Але я ўсё вытрымаў.

Жыцць давялося пры царах і імператарах, ваяводах, памешчыках, князях, графах, бальшавіках і немцах. Але я заўсёды адчуваў унутраную і знешнюю свабоду. Лёгка дыхалася сярод малодшых братоў і сясцёр у велічным парку.

Асабліва добра жылося мне пры ўладальніках маёнтка. Мяне шанавалі, песцілі, даглядалі. Ніхто балюча не зрабіў. Ніхто мяне не турбаваў з захопнікаў, кшталту маскавітаў ці французаў. Нават немцы і тыя пакінулі ў спакоі падчас акупацыі.

А вось пры Саветах ды бальшавіках дасталося ўдосталь і маім братам дубам, і суседкам лістоўніцам, і кедрам, і розным іншым экзотам, што надавалі веліч і харастvo прыдзвінскаму краю, цешылі вока, прыносілі асалоду. Цясніць нас пачалі, знішчаць, вызваляючы месцы пад розныя будынкі. Мяне і зусім сціснулі, калі ўзвялі сярэднія школы, гаспадарчыя пабудовы. Асабліва падпяклі мае карані адкідамі ад спаленага ў кацельні вугалю. І не разок-другі, а цягам некалькіх гадоў!

Неяк спрабавалі агародзіць мяне драўляным плотам. Ды агароджу тую знішчылі. Перад чалавекам-вар'ятам я бяссільны, таму і састарэў без пары.

Праўда, маё існаванне яшчэ можна было б падоўжыць, калі з павагай ды разуменнем аднесціся да маёй старасці. Я мог бы яшчэ пажыць, каб дупло прыкрыць ад вільгаці, ці нават закансерваваць яго. Не так гніў бы. Не шмат клопату для гэтага спатрэбілася б. Някепска б і новую агароджу паставіць, толькі на гэты раз металёвую. Можна нават ахоўную шыльду прымацаваць з надпісам: "Помнік прыроды. Ахоўваецца дзяржавай. Вышыня – звыш 20-ці метраў, таўшчыня – 2 метры, у акружнасці – 5 метраў." Я ж адзін такі на ўвесь слаўны Прыдзвінскі край! Ды і ў рэспубліцы няшмат знойдзецца маіх аднагодкаў! Ніdзе ні за якія грошы вы не купіце таго, што даю я.

**А.Крачкоўскі.**

P.S. Ад рэдакцыі: Але замест гэтага ўвосень 2010-га мясцовыя чыноўнікі накіравалі да мяне брыгаду са "шведкамі". Што яны са мной рабілі, я вам тут распавядаць не буду. З тых чыноўнікамі, хто на мяне сабіраў паперы, нібыта я страціў розум і стаў небяспечны, падобнае зробяць на тым свеце.

Я ж паміраю.

ВЁСКІ ПРЫДЗВІННЯ

# МАМОЙКІ

Гэтай вёсцы нечувана пашанцавала. Летась паўз усю вясковую вуліцу там распачалі класці ходнікі. Сёлета іх скончылі класці і заасфальтавалі. Заасфальтавалі нават заезды на сялянскія двары. Праз прыдарожную канаву паклалі трубы-пераезды. Ды не каму-небудзь, а ўсім пагалоўна. Прадугледзелі нават сцёк вады, для чаго паклалі спецыяльныя жалабы. Карацей кажучы, не вёска атрымалася, а казка. Вось бы ў такой пажыць якнебудзь!

Але ж шанцуе выбраным, а астатнія мусяць "влачить жалкое существование", то бок сядзець па вушы ў брудзе, і пры гэтым не падаваць голасу.

Чаму пашанцавала менавіта Мамойкам? Хто яго ведае. Мо дабраўпарадкаванне вёскі ўключылі ў нейкі адмысловы план, а мо нейкі начальнік адсюль родам. А вось астатнім 234-м сельскім населеным пунктам Бешанковіччыны так не пашанцавала. Згодна Беларускай Энцыклапедыі столькі іх было ў нас у 1996-м годзе, калі ў раёне жыло 24 700 чалавек. Колькі іх засталося сёння, адзін спадар Крачкоўскі ведае. За прамінулых 15 гадоў каля сотні нашых вёсак проста зніклі з твару зямлі. Іх ніхто ўжо не дабраўпарадкуе. Добра, калі хоць дарогу на могілкі падгледзяць. Згодна дзяржпраграмаў "адраджаюць" у раёне толькі з дзесятак вёсак пад назовам "аграгарадкі". Ды й тыя ж Мамойкі намарафецілі толькі з аднаго боку, з фасаду, ад дарогі. А вось дарогу да пяці новых домікаў, якія стаяць наводдаль, за яловымі лесапасадкамі, не заасфальтавалі. Няма там і ходнікаў. І не скора будуць. Бо пры існай сістэме, пры вялікай таямніцы фармавання бюджэту ніхто ніколі не даведаецца, чаму на будаўніцтва жывёлаводчых комплексаў у раёне штогод бухаюць сотні мільярдаў рублёў, а на дабраўпарадкаванне вёсак – драбязу.

Яшчэ адзін бок пытання заключаецца ў тым, што ўсё, што сёння робіцца, робіцца часова, абыякава, кепска. Тыя ходнікі, што ляглі паўз Мамойкі, атрымаліся няроўныя. Ехаць па іх на роварах нельга, цябе кідае з боку ўбок. Месцамі праз асфальт ужо палезла маладая трава.

**Г.Станкевіч.**

НАШЫ "ПАРЛАМЕНТАРЫІ"

# КОНЬ В СЕНАТЕ

ИЗВЕСТНЫЙ ИСТОРИЧЕСКИЙ ФАКТ: РИМСКИЙ ИМПЕРАТОР КАЛИГУЛА ВВЕЛ В СОСТАВ СЕНАТА СВОЕГО КОНЯ. ТАКИМ ОБРАЗОМ, КОНЬ ПО КЛИЧКЕ ИНЦИТАТ ВОШЕЛ В ИСТОРИЮ КАК САМЫЙ ВЫСОКОПОСТАВЛЕННЫЙ ЖЕРЕБЕЦ, А ИМПЕРАТОР КАЛИГУЛА ДОЛГО СЧИТАЛСЯ СУМАСШЕДШИМ. ОДНАКО СЕЙЧАС ИСТОРИКИ ПЕРЕСМОТРЕЛИ СВОИ ОЦЕНКИ.

В новой исторической трактовке считается, что Калигула при соблюдении всех демократических процедур (конь был объявлен гражданином Рима, как требовал закон того времени) просто высмеял бездельников. Более того, выяснилось, что когда эксцентричный император был убит, народ выступил против вывода коня из сената.

Потому что в отличие от других законодателей, Инцитат никого в тюрьмы не сажал, дурных советов не давал и требовал совсем немного на свое содержание.

Две тысячи лет прошло, а какие очевидные параллели! Калигула, он же Гай Юлий Цезарь, известен своим принципом: «Пусть ненавидят, лишь бы боялись». Ну а конь… Нет, лица в белорусском парламенте человеческие. Но все-таки уже очевидно, что наш правитель тоже сделал свой ход конем, формально использовав для этого демократические процедуры.

Простой пример из жизни сегодняшней Беларуси недавно привел епископ Гомельский и Жлобинский Стефан. Так и сказал: «Самый простой пример». «Вы знаете, что в домах престарелых есть норма, согласно которой лежачему человеку положен один памперс на трое суток? – спросил епископ Стефан у журналиста газеты «Вечерний Гомель». – Можно ли содержать так лежачих людей?»

Я тоже журналист, и я этого не знала. Даже мысли, даже тени подозрения не было, что можно дойти до такой степени цинизма. Громогласно отчитаться, что лежачих больных государство обеспечивает памперсами и подгузниками, засветиться в качестве заботливых благодетелей в СМИ и на телеэкранах, а на самом деле установить издевательскую норму «один – на три дня». Почему не один на месяц или даже на год? Какими физиологическими процессами обоснована эта норма?

Конечно, даже не надо быть медиком, чтобы понимать, что человек от такого «подарка» будет умирать в вони и собственных испражнениях. Но в Палате представителей было 14 депутатов-врачей, большое профессиональное лобби. Как они могли молчать? Те, кто давал клятву Гиппократа. Те, кто знает и видел, что такое лежачий больной. Почему никто из них ни разу даже не заикнулся, что государство просто не имеет права тратить миллионы долларов на то, чтобы запускать в космос спутники или отправлять экспедиции в Антарктиду, когда так страшно умирают собственные граждане?..

14 врачей сидели в Палате представителей как народные избранники, но так истово одобряли все решения власти, что даже не вспомнили о некоторых физиологических отличиях, которые есть между мужчинами и женщинами. Хотя именно из-за этих особенностей строения организма инвалиды-колясочники, лежачие, парализованные мужчины используют не памперсы, а наружные урологические катетеры.

Эти злополучные катетеры и мочеприемники вообще не попали в списки изделий санитарно-гигиенического назначения, которыми государство обеспечивает инвалидов. Про тысячи человек, про тысячи больных мужчин просто забыли, о них никто даже не подумал. Будто их нет, будто они уже умерли или испарились. Так какой вообще толк от того, что в парламенте заседали врачи?

Конечно, в XXI веке это вообще позор – иметь такую проблему. Это стыд невероятный – экономить на памперсах и катетерах для больных людей. Это скотство – вычеркнуть из списка тех, кому положены памперсы, глубоких стариков, главный диагноз которых – старость. Это просто какая-то форма государственного людоедства. Потому что простейшее и элементарное, что государство должно обеспечить своим больным и немощным – право жить и умирать, извините, не в моче и фекалиях.

Однако никто из депутатов не осмелился на эти темы даже говорить, не то что добиваться и требовать. Хотя это не политика. Это не защита политзаключенных. Это не с открытым забралом да против коррупции, против силовиков. Это то, что даже в наших условиях они могли и должны были делать. И все равно не стали. Струсили.

Они струсили по мелочи, и тем более трусили по-крупному. Беларусь вымирает. Разными хитростями выводят из статистики смерти от онкозаболеваний, но очевидное невозможно спрятать: в каждой белорусской семье есть умершие от рака и редко у кого – от старости.

По последним данным РНПЦ онкологии и медицинской радиологии, за последние 10 лет заболеваемость раком в Беларуси выросла на треть, на 34%. Правда, никто по этому поводу не кричит «Караул!». И даже наоборот, нас всячески успокаивают, что не надо паниковать, потому что такая тенденция во всем мире, и дальше будет только хуже.

Вроде все так. Только во всем мире рак выявляют на ранних стадиях и лечат. А у нас – когда человек начинает загибаться, сам идет к врачу, но сделать уже ничего невозможно. Врачи прекрасно знают это важное отличие. Знают, что во всем мире для выявления рака на ранних стадиях выстроена целая система. Знают, что простейшее и элементарное в ранней диагностике – это анализ крови на онкомаркеры. Вот заболели вы, скажем, ангиной или, абсолютно здоровый, пришли за водительской медсправкой, и вас отправляют сдать такой анализ.

Посчитав белки-гормоны в крови, оказывается, можно выявлять опухолевые процессы в самом начале. Только нашему государству это не надо. У нас не нашлось денег. На самые разные причуды и авантюры, на «Славянский базар», на хоккей, на новые самолеты, на новые резиденции деньги есть, а на спасение людей от смертельных стадий рака – нет. И именно депутаты принимали такие законы о государственном бюджете. «За» голосовали даже депутаты-медики.

Кто они после этого? Врачи? Государственные деятели? Представители народа?..

Чем больше думаешь, тем очевиднее, что конь в сенате это действительно некий символ уровня нынешнего белорусского парламентаризма. Правда, кормим мы его слишком щедро.

**Светлана КАЛИНКИНА, «Народная воля».**

НУ І НУ!

# ЗАНИМАТЕЛЬНАЯ АРИФМЕТИКА

УХОДЯЩАЯ НЕДЕЛЯ ПОДАРИЛА ЧУДНУЮ ИГРУ ЦИФР. В ПЕРВОМ ПОЛУГОДИИ ДОХОДЫ БЮДЖЕТА БЕЛАРУСИ ОТ ПРИВАТИЗАЦИИ СОСТАВИЛИ ОКОЛО 1 МИЛЛИОНА ДОЛЛАРОВ, А ПЕРВЫЙ ЗАМЕСТИТЕЛЬ ПРЕДСЕДАТЕЛЯ МИНГОРИСПОЛКОМА ИГОРЬ ВАСИЛЬЕВ ВЫМОГАЛ У ИНОСТРАННОГО ИНВЕСТОРА ВЗЯТКУ В РАЗМЕРЕ 500 ТЫСЯЧ "БАКСОВ".

Конечно, эти два темы напрямую друг с другом не связаны. Но соотношение всё равно впечатляет: по данным КГБ, госчиновник требовал «на лапу» сумму, равную половине поступлений от приватизации в масштабах всей страны!

А хотите еще немного занимательной арифметики? Согласно обязательствам перед Антикризисным фондом ЕврАзЭС Беларусь в 2012 году должна обеспечить поступления от приватизации на 2,5 миллиарда долларов. По итогам первого полугодия, план выполнен на 0,04%.

И, на закуску: 1 год и 9 месяцев – столько провел на посту первого заместителя председателя Мингорисполкома Игорь Васильев. До этого он работал директором минского комбината силикатных изделий, то есть чиновником не являлся. Вот и возникает вопрос: то ли наши госструктуры портят и развращают людей в кратчайшие сроки, то ли на вторую должность в столице изначально брали маститого взяточника?

Да, кстати: согласие на назначение Игоря Васильева в Мингорисполком давал видный борец с коррупцией Александр Лукашенко. Может, он теперь сам себе строгий выговор объявит за очередной провал в кадровой политике?..

**Вадим Ливнев.**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ: ЧАМУ ТРЭБА ІСЦІ НА ВЫБАРЫ

"КАЛІ СТАВІШ МЭТУ "ПАКАЗАЦЬ ДУЛІНУ" ЎЛАДЗЕ І СКАЗАЦЬ, ШТО ЯНА КЕПСКАЯ, ТО БАЙКОТ – НІБЫТА НАРМАЛЬНА. АЛЕ КАЛІ ХОЧАШ ДАЙСЦІ ДА ЛЮДЗЕЙ, ЗМЯНІЦЬ ДУМКУ, ЗАВАЯВАЦЬ РОЗУМ ЛЮДЗЕЙ, ТО ТРЭБА ІСЦІ ДА ІХ", – ЗАЯВІЎ АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ У ІНТЭРВ'Ю ЖУРНАЛІСТАМ "БЕЛСАТУ".

У штабе Мілінкевіча рыхтуюцца да актыўнай агітацыі. Аляксандр Мілінкевіч вылучаецца кандыдатам у Менску па Уручанскай 109-й акрузе. У ягонай ініцыятыўнай групе больш за 350 асобаў, сярод якіх – бард Зміцер Бартосік, былы палітзняволены Мікіта Ліхавід, палітык Рыгор Кастусёў, эканаміст Сяргей Чалы, былы віцэ-рэктар ЕГУ Уладзімір Дунаеў.

Палітык упэўнены, што большасць беларусаў расчараваныя ў дзейнай уладзе і хочуць пераменаў. "Людзі заўсёды пытаюцца: а што вы хочаце зрабіць? Чаму пры вас жыццё мае стаць лепшым? Каб гэта патлумачыць, трэба ісці на выбары, ісці і казаць праўду: і пра палітвязняў, і пра тое, што сапраўдных выбараў няма. Але без паходу на выбары мы маргіналізуемся і людзі думаюць, што ўвогуле няма альтэрнатывы", – мяркуе лідар Руху "За Свабоду".

**"Без ілюзіяў"**

Аляксандр Мілінкевіч падкрэслівае, што ўладам цалкам падкантрольны выбарчы працэс – ад вылучэння і рэгістрацыі кандыдатаў да падвядзення вынікаў, што дае магчымасць атрымаць парламент у выгадным для адміністрацыі складзе.

"Дэмакратычнага працэсу няма, але гэта не азначае, што ў выбарах не трэба ўдзельнічаць, – гаворыць Аляксандр Мілінкевіч. – Я удзельнічаў аднойчы ў байкоце, у 2000-м годзе. Тады толькі Мікола Статкевіч быў супраць, а мы ўсе не ўдзельнічалі. Лічу гэта памылкаю, а Мікола меў рацыю. Дарэчы, Мікола Статкевіч і сёння кажа – адтуль, з турмы, з самых цяжкіх умоваў: ідзіце да канца, распавядайце праўду, але не здымайцеся, не рабіцеся маргінальнымі".

**"Іду з "Народнаю праграмаю"**

Палітык заўважае, што ўлады працягваюць палітыку жорсткіх рэпрэсіяў супраць сваіх палітычных апанентаў. "Улады так сябе паводзяць, бо адчуваюць наўпэўненасць. Рэйтынг Лукашэнкі значна ўпаў, і ён не мае рэсурсаў, каб аднавіць гэты рэйтынг", – пакрэсліў Мілінкевіч. "Людзі запалоханыя, але і сама ўлада ў шокавым стане: старая мадэль не працуе, патрэбная новая. Мы будзем распавядаць пра "Народную праграму", якую склалі больш за 40 экспертаў, што выпрацавалі канкрэтныя падыходы, "дарожныя мапы" таго, што трэба рабіць у розных кірунках, – распавядае Аляксандр Мілінкевіч. – Мы маем фундаментальны дакумент, які абмеркаваны з людзьмі і складзены найлепшымі экспертамі Беларусі".

**Прэс-служба Руху "За свабоду!".**

РОЗНАЕ ЖЫЦЦЁ

# МЯСО ВАРШАВСКОЕ И БЕЛОРУССКОЕ

В Варшаве белорусу обыкновенному избалованному социальным государством и 5,5% ростами ВВП, придется переживать удивления. Например, попробуйте объясните ему, зачем на билбордах по всему городу рекламировать мясо по 31.600 руб. (12.89 злотых)? Без кости – пишут они на этом своём билборде. Мне кажется нагло, нет?!

Нуждается ли данная свинина в рекламе? А не спровоцирует ли асоциальную очередь в мясном отделе, потом эти неприличные гыгы на ютубе. Уверены ли поляки в том, что резервы стабилизационного фонда Варшавы не истощатся в два дня по причине массового вывоза без кости за пределы страны в восточном направлении для дальнейшей бесконтрольной перепродажи еще восточнее? И, главный вопрос для белоруса обыкновенного – сколько там кило в одни руки-то за раз?

Самое социальное мясо в Минске стоит 37.450 руб. Оно и называется по-человечьи: "спинно-поясничная часть". Тут белорусу, оказавшемуся западнее от социальной своей страны, снова будет непросто – как сравнивать в цене мясо отечественное с их-ним, если поляки не догадываются писать на свинине "п/ф мясокостный для вторых блюд из свинины" – 41.100 руб., как в магазинах Минска. Зато наше мясо настоящее социальное, с костью, приличной жирности и со шкуркой же.

Попробуй найди такое в Варшаве. Ага, ищи.

Там по цене нашего "п/ф мясокостного" продают, например, филейную часть (17.99 злотых или на наши 44.000 руб). В Минске филей идёт по 77.650, но это наш филей замороженный. В Варшаве по такой цене продаётся, например, пастрома (29.99 злотых или 73.380 рублей).

Не стоит рассчитывать на мясо мороженное в варшавских магазинах. Не теряйте времени зря, берите что дают, пускай даже это мясо без кости. Дома разрежете на эти странные магазинные куски, заморозите в холодильнике – и будет вам родное отечественное "п/ф", всё как вы любите.

Лопатка без кости в Варшаве стоит 13.99 злотых, на наши это неприличные 34.300 руб. Хотя 6 кость оставили что ли…. В мясном отделе минской крамы свинина, называемая похоже – "лопаточный отруб" – тоже недорого 38.050 руб. за кг. Но этот "отруб" рубил, кажется, маньяк, очень старался избавиться от мяса на кости. "Лопатка без кости" в магазине "Гурман" на этой неделе стоит 74.780 руб. Это 2 кило 180 грамм варшавской такой же.

Вот рёбрышки – и в Варшаве рёбрышки. Только там по 40 тысяч на наши рубли (15.99 злотых). У нас столько рулька стоит. Ребра в "Гурмане" идут по 67.130. И на вид уступают ихним. Хотя и цены уже достаточно.

**Виктор Малишевский, malishevsky.livejournal.com.**

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

# ДЫЯЛОГ "ПА ПАНЯЦЦЯХ"

БЕЛАРУСКІЯ СЛУЖБОЎЦЫ ЗНОЎ ПАЧАЛІ ЕЗДЗІЦЬ НА ЗАХАД, АЛЕ РАЗГЛЯДАЦЬ ГЭТА ЯК ЗМЕНУ ЗНЕШНЕПАЛІТЫЧНАГА КУРСУ АФІЦЫЙНАГА МІНСКА НЕ ВАРТА.

У Вену прарвалася невыязная старшыня ЦВК, а ў Брусэль запрасілі міністра замежных справаў. Паразуменьне не дасягнута, паведамляе Польскае радыё.

Не пасьпеў мінуць ажыятаж зьвязаны з паездкай Лідзіі Ярмошынай у Вену на канфэрэнцыю АБСЭ, як у Эўропу зноў падаўся беларускі афіцыйны важжор. Гэтым разам у Брусэль наведалася цэлая беларуская дэлегацыя на чале зь міністрам замежных справаў Сяргеем Мартынавым. Дэлегацыя ўзяла ўдзел у 3-й сустрэчы міністраў замежных справаў краін-партнэраў "Усходняга партнэрства". Афіцыйная тэма сустрэчы – абмеркаваньне "дарожнай мапы" Усходняга партнэрства ды ініцыятываў па далейшым разьвіцьці гэтай праграмы да 2013 году. Летась беларускія ўлады ігнаравалі такія мерапрыемствы. Няўжо афіцыйны Менск узяў курс на пацяпленьне адносінаў з ЭЗ? Не, - перакананы палітоляг Андрэй Фёдараў. Андрэй Фёдараў: Гэтыя падзеі, якія адбыліся ў Вене ды Брусэлі, дачыненьня да Беларусі ня мелі. Гэта былі ардынарныя мерапрыемствы ў межах АБСЭ ды "Ўсходняга партнэрства". Паколькі Беларусь ня выключаная ані з той, ані з іншай арганізацыі, то ёй накіроўваецца афіцыйнае запрашэньне. Беларускі бок накіроўвае туды сваіх прадстаўнікоў.

Цяжка ўбачыць адзнакі пацяпленьня ў заявах абодвух бакоў. Напрыклад, паводле паведамленьня МЗС Беларусі, Сяргей Мартынаў у Брусэлі казаў пра неабходнасьць няўхільнага выкананьня базавых прынцыпаў УП, пра недапушчальнасьць дыскрымінацыйных падыходаў і пераадоленьне дэфіцыту дэмакратыі ўнутры "Ўсходняга партнэрства". Што хаваецца за гэтай афіцыйнай новамовай, тлумачыць палітоляг Аляксандар Лагвінец: "Рэжым увесь час шле сыгналы аб'яднанай Эўропе, дамагаючыся прызнаньня сытуацыі такой, якой яна ёсьць, то бок, ніякага ціску ў справе дыктатуры ў краіне. Вось таму асабісты міністар Лукашэнкі Мартынаў быў накіраваны ў Брусэль, каб яшчэ раз агучыць такую пазыцыю Лукашэнкі.

З эўрапейскага боку ў сустрэчы ўдзельнічалі Вярхоўны прадстаўнік ЭЗ па замежных справах Кэтрын Эштан, эўракамісар па пашырэньні ЭЗ Штэфан Фюле, кіраўнікі зьнешнепалітычных установаў краінаў ЭЗ ды краінаў УП. Іх пасланьне да афіцыйнага Менску мела наступны характар: няма месца палітвязьням у сэрцы Эўропы. Пра гэта паведаміла Кэтрын Эштан на прэсавай канфэрэнцыі па выніках сустрэчы. Яна зазначыла, што ЭЗ яшчэ раз гучна заявіў пра сваю занепакоенасьць сытуацыяй у Беларусі, у тым ліку адсутнасьцю павагі да правоў чалавека, вяршынства закона, дэмакратыі й незалежнасьці СМІ. Таксама было заяўлена пра неабходнасьць неадкладнага вызваленьня й рэабілітацыі ўсіх палітзьняволеных."

Ці афіцыйны Менск успрыме дадзенае пасланьне? У гэтым сумняецца Андрэй Фёдараў: "На жаль, афіцыйны Менск гэтага не пачуе. Мы чулі заявы Аляксандра Лукашэнкі, што мяч на баку Эўропы. Афіцыйны Менск лічыць, што сваю частку зрабіў, выпусьціўшы Саньнікава й Бандарэнку, а Эўропа на гэта не адгукнулася. Пакуль ня будзе гэтых мераў у адказ, беларускія ўлады нічога ня будуць рабіць. На дадзены момант нічога не прымушае беларускія ўлады ісьці насустрач гэтым заклікам."

Беларускія ўлады не гатовыя нічога мяняць у краіне, бяз гэтага размовы паміж Брусэлем ды афіцыйным Менскам безвыніковыя, перакананы Аляксандар Лагвінец: "ЭЗ ня робіць градацыі паміж палітвязьнямі ды чакае вызваленьня ўсіх. Тады будзе заўважны крок насустрач з Эўразьвязу. Пакуль жа беларускія ўлады вельмі моцна расчаравалі Брусэль ды іншыя сталіцы, нават тых, хто хацеў бы больш цесна супрацоўнічаць з рэжымам. Таму ніякіх зрухаў чакаць ня варта. Тым больш, што сытуацыя пагаршаецца, зьяўляюцца новыя палітвязьні. Бачна, што сёньня рэжым не гатовы мяняць нешта ўнутры краіны дзеля дыялёгу з ЭЗ."

Эўрапейскі Зьвяз раз за разам выказвае сваю занепакоенасьць сытуацыяй у Беларусі. Брусэль нагадвае Менску абяцаньні спыніць рэпрэсіі. Беларускія ўлады адказваюць на гэта, што трэба бачыць праблемы з правамі чалавека ў краінах ЭЗ. У гэты ж час у Беларусі пачалі саджаць фатографаў ды рыэлтараў па палітычных справах.

ЛОНДАНСКАЯ АЛІМПІЯДА

# "МЫ СКОЧВАЕМСЯ НА ЎЗРОВЕНЬ ДРУГОГА СВЕТУ"

ЛІДАР РУХУ «ЗА СВАБОДУ» АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ НЕ БАЧЫЦЬ НЕЧАГА ДЗІЎНАГА Ў ТЫМ, ШТО ЛУКАШЭНКА НЯ ЗМОГ ТРАПІЦЬ У ЛОНДАН.

«Паколькі ўезд у Эўропу забаронены, а Вялікабрытанія ўваходзіць у ЭЗ, то проста рэалізавалася тое, пра што гаварылі эўрапейскія палітыкі з Брусэлю. І нягледзячы на тое, што Лукашэнка – прэзыдэнт беларускага НАК, гэта не дапамагло. Мне вельмі шкада,што Беларусь ня можа быць паўнавартаснай сярод эўрапейскіх краінаў. І гэта мае наступствы – эканамічныя праблемы ў стасунках з ЭЗ. Мы скочваемся на ўзровень другога сьвету, што мне вельмі балюча. Лукашэнка, можа, і сам перажывае. Але мне баліць за краіну», – пракаментаваў Радыё Свабода сітуацыю

**Аляксандар Мілінкевіч.**

ЖЫЦЦЁ Ў РЭГІЁНАХ

# ЧАМУ ЛЮДЗІ СТРАЙКУЮЦЬ?

СЯРЭДНІ ЗАРОБАК ПАСТУПОВА РУХАЕЦЦА ДА АДЗНАКІ 500 ДАЛЯРАЎ, АДНАК, ЯК І ПАПЯРЭДЖВАЎ МІНІСТР ФІНАНСАЎ БЕЛАРУСІ, АТРЫМЛІВАЦЬ ЯГО БУДУЦЬ ДАЛЁКА НЕ ЎСЁ. ТРЫ ЧВЭРЦІ АРГАНІЗАЦЫЙ, ЯКІХ ЎЛІЧВАЕ АФІЦЫЙНАЯ СТАТЫСТЫКА, МАЮЦЬ ЗАРОБАК ДА 3 МЛН. РУБЛЁЎ. НАЙБОЛЬШ РАСПАЎСЮДЖАНАЯ ЗАРПЛАТА Ў РЭГІЁНАХ - 2-2,5 МЛН. РУБЛЁЎ. НЕВЫСОКІЯ ЗАРОБКІ СТАНОВЯЦЦА ПАДСТАВАЙ ДЛЯ ХВАЛЯВАННЯЎ У ПРАЦОЎНЫХ КАЛЕКТЫВАХ.

### «Як можна жыць на 1,8 млн. рублёў у месяц?»

На прадпрыемстве «Гроднажылбуд» рабочыя на мінулым тыдні наладзілі страйк, выказваючы тым самым незадаволенасць нізкім узроўнем аплаты працы. У адміністрацыі прадпрыемства (а таксама ў прафкаме) сітуацыю па тэлефоне каментаваць адмовіліся. Разам з тым, карэспандэнту БелаПАН ўдалося знайсці двух супрацоўнікаў прадпрыемства, якія пацвердзілі факт забастоўкі і растлумачылі яе прычыны.

«У страйку прымала ўдзел 200 чалавек», - паведаміў БелаПАН грузчык гарадзенскага прадпрыемства. Удзельнікі акцыі пратэсту настойвалі на павышэнні заработнай платы. Работнікі гродзенскага прадпрыемства распавядаюць, што існуючая зарплата не дазваляе нармальна жыць.

«Як можна жыць на 1,8 млн. рублёў у месяц? Як за такую зарплату можна сям'ю пракарміць і крэдыты выплачваць? », - Здзіўляецца работнік« Гроднажылбуда».

Раней на гарадзенскім прадпрыемстве ўжо ўздымалася пытанне аб заработнай плаце. Працоўныя паведамілі БелаПАН, што месяц таму спрабаваў страйкаваць арматурны цэх. Тады рабочым паабяцалі зарплату падняць, аднак гэтага так і не адбылося. «Яны вось зараз не атрымалі (обещанную. - БелаПАН) заробак, і пайшлі страйкаваць», - распавядае супрацоўнік гродзенскага прадпрыемства, каментуючы пятніцкія падзеі.

Незадаволенасці рабочых у Гродна не здаюцца дзіўнымі, калі ўлічыць той узровень заробкаў, які прапануецца сёння ў рэгіёнах.

Паказальная ў гэтым сэнсе статыстыка аб вакансіях у абласных цэнтрах. Брэсцкі аблвыканкам, да прыкладу, прапануе сёння каля 4000 вакансій. У пераважнай большасці выпадкаў (3500 вакансій) прэтэндэнтам прапануецца зарплата да 2,5 млн. рублёў, што эквівалентна 300 далярам. Знайсці працу з сярэдняй зарплатай (у траўні яна складала 3,6 млн. рублёў) у Брэсцкай вобласці вельмі складана. Толькі каля ста вакансій з вышэйназваных 4000 прапануюць зарплату, якая адпавядае або перавышае сярэднюю па краіне.

«Працаўнікі ліцейных цэхаў Брэсцкага машынабудаўнічага завода, якія па ідэі павінны быць высокааплатнымі спецыялістамі, зарабляюць сёння каля 2,6-2,7 млн. рублёў», - кажа старшыня Брэсцкай абласной рэгіянальнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза Беларускага Валянцін Лазарэнкаў. У брэсцкай гандлі, адзначае ён, зарплаты яшчэ ніжэй - касірам прапануецца 1,5 млн. рублёў у месяц. «Пры сённяшніх цэнах заробак любога працоўнага павінна пачынацца з трох мільёнаў рублёў», - перакананы Лазарэнкаў.

З улікам невысокай зарплаты, якая склалася ў рэгіёнах, карыстаюцца попытам прапановы аб працаўладкаванні ў Расіі. Праўда, «сацыяльны пакет» такога працаўладкавання вельмі своеасаблівы. «На слупах у Гродне з'явіліся аб'явы аб працаўладкаванні ў Расіі токараў, фрэзероўшчыкаў, наладчыкаў. Прапануецца: 11-гадзінны працоўны дзень, шасцідзённы працоўны тыдзень, абяцаная зарплата - ад 10 млн. да 20 млн. рублёў у месяц », - распавядае актывіст незалежнага прафсаюзнага руху Анатоль Хацько.

Нягледзячы на тое, што ў дадзеным выпадку адкрыта парушаюцца нормы працоўнага заканадаўства, прапанова расійскага працадаўцы будзе запатрабавана беларускімі рабочымі, мяркуе Хацько. «Людзі ўсё, што могуць, зробяць, каб нейкую капейку зарабіць», - кажа актывіст прафсаюзнага руху.

### Рызыка павышэння зарплаты на Радзіме

З улікам розніцы ў заработнай плаце, падставы для адтоку кадраў з Беларусі за мяжу існуюць. Па апошніх дадзеных, якія прыводзіць статкамітэт СНД, у траўні 2012 сярэдняя зарплата (у эквіваленце) у Расіі складала 850 даляраў, у Казахстане - 660 даляраў, у Азербайджане - 483 даляра, у Беларусі - 435 даляраў.

Беларускі ўрад, памятаючы пра магчымыя наступствы неабдуманага росту заробкаў, паспяшалася праз тры дні пасля заявы прэзідэнта, удакладніць, якая палітыка будзе праводзіцца ў дачыненні да даходаў насельніцтва. «Калі мы гаворым аб зарплаце, эквівалентнай 500 далярам, трэба разумець, што мы кажам аб сярэдняй велічыні ... Гэта не значыць, што кожны працаўнік да канца года атрымае эквівалент 500 даляраў», - растлумачыў міністр фінансаў Андрэй Харкавец, адказваючы ў другой палове чэрвеня на пытанні журналістаў.

Старшыня Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук, каментуючы планы павышэння заробкаў, адзначае, што беларускія ўлады, вобразна кажучы, апынуліся сёння паміж Сцылай і Харыбдай. «З аднаго боку, існуе крайняя неабходнасць павышэння заробкаў. А з іншага боку, рэальных магчымасцяў для павышэння заробкаў сёння вельмі мала. Шлях, які прадугледжвае апярэджанне росту заробкаў над ростам прадукцыйнасці, можа спраўакаваць падзеі 2011 года », - мяркуе Ярашук.

Улічваючы гэтыя рызыкі, дадае ён, міжнародныя назіральнікі не падтрымліваюць планы афіцыйнага Мінска па павышэнню заробкаў. «Падчас ліпеньскага візіту прадстаўнікоў МВФ у Мінск яны прама, сустракаючыся з намі, сказалі, што заявы кіраўніцтва краіны аб давядзенні зарплаты да канца года да 500 даляраў перакрэсліваюць магчымасць будучага супрацоўніцтва фонду з Беларуссю», - рэзюмаваў Ярашук.

**Дзмітрый Заяц, naviny.by.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 37455, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.07.2012 у 19.25.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.